# СПРАВЫ ДП

## 7-ая ПРЭСАВАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ ІРО

Паводля прынятай папярэдняй пастановы, чародная 7-ая прэсавая канфэрэнцыя адбылася 16 чырвеня ў сядзібе Галоўнай Гасподы ІРО на Амэрыканскую Зону ў Бад-Кісынгене.

Канфэрэнцыю адчыніў шэф інфармацыйнага аддзелу сп. Дэнлінгер. Пасьля прывітаньня ён зазначыў, што на гэтай канфэрэнцыі меў выступіць з дакладам галоўны сакратар ІРО сп. Ток, які наведаў Амэрыканскую Зону Нямеччыны. Аднак, нажаль ён захварэў і перадаў толькі свае спасьцярогі й заўвагі што да жыцьця й перасяленьня ўцекачоў у пісьмовай форме.

Далей сп. Дэнлінгер сьціраваў увагу на важнасьць веданьня розных моваў заходняга сьвету, найперш ангельскае, гішпанскае, францускае й інш., ня толькі для інтэлігенцыі, але й для звычайных работнікаў. Ён параіў дзеля гэтага ўладжваць у лягерах спэцыяльныя курсы гэтых моваў (гл. аб гэтым у іншым месцы. Рэд.).

Таксама была шырака асьветленая справа праўнае памогі ДП (гл. «Бацькаўшчыну», № 20 (23).

Пасьля гэтага прадстаўнік Данскага Чырвонага Крыжа Др. Свэнсэн паінфармаваў аб супрацьтубэркулёзных прышчэпках. Гэтая рэч ня новая, праводзіцца ўжо больш за 20 год. Праўда, гэта толькі папераджальнае мерапрыёмства, аднак зь вельмі добрымі вынікамі. Матар'ялы для прышчэпкі прывозіць ДЧК штоаўторка самалётам. Прышчэпкі даюцца першым чынам дзецям тых народаў, якія найбольш пацярпелі ад вайны. У Нямеччыне ўжо праведзеная прышчэпка больш за 50 000 дзяцей. Данскі Чырвоны Крыж хоча правесьці гэтыя прышчэпкі ДП задарма. Прышчэпкі даюцца толькі тым, хто яшчэ не захварэў на турбэкулёз. Дзеля гэтага праводзіцца спачатку сьцьверджаньне гэтае хваробы ўколам у руку. Ужо сьцьверджана, што пасьля пяцёх год па прышчэпцы толькі 7% дзяцей захварэла на тубэркулёз. Шчапленьне пачнецца каля 6-7 ліпеня й будзе праводзіцца на працягу 2 месяцаў. Ня выключаюцца й дзеці тых, хто ня жыве ў лягеры.

Далей сп. Дэнлінгер даў адказы на колькі падрыхтаваных да канфэрэнцыі пытаньняў. Вось важнейшыя зь іх:

1. Неправўдападобна, каб афіцэрам ІРО ня было нічога ведама аб пастановах Галоўнае Гасподы й прэсавых канфэрэнцыяў, якія публікуюцца ў прэсе ДП, бо яны заўсёды даводзяцца да ведама афіцэраў ІРО.

2. Справа перасяленьня, нажаль, праходзіць вельмі марудна. Дакладаюцца стараньні, каб яна пайшла спраўней. Прыкра, што людзі зь візамі змушаныя чакаць месяцамі ў пераходных лягерах і пасьля яшчэ вяртацца назад. Так, нажаль, было. Прычыны — спазьненьне місіяў, розныя праверваньні і г. д. Цяпер гэтая сыстэма зьмененая. Людзі чакаюць на выезд у сваіх лягерах. Самы пэрыяд чаканьня цяпер скарочаны да 2-5 тыдняў. Шэф справы перасяленьня ня верыць, што людзі адсылаюцца назад у свае лягеры без харчаваньня.

3. Што да закону аб прыняцьці Амэрыкай 200 000 ДП, дык тымчасам ведама толькі аб прыняцьці гэтага закону. Падрабязнасьці яшчэ няведамыя. ІРО стараецца наладзіць свой траспарт і спадзяецца, што выкананьне закону неўзабаве пачнецца.

4. Цьверджаньне, што нямецкія дзеці лепей забясьпечаныя, чымся дзеці ДП, не адпавядае праўдзе, бо дзеці ДП харчуюцца вельмі добра. Лягер у Мангайме атрымаў для дзяцей ня толькі какао й аўсянку, але і цукер і малако, толькі ўсё гэта лягерная адміністрацыя неадпаведна разьмеркавала.

5. Грашовая рэформа ніколі не пакрыўдзіць ДП. Усе фонды іхных дабрадзейных таварыстваў, бяз розьніцы, ці яны зложаныя ў банку ці не, будуць выменьвацца падобна да фондаў нямецкіх дабрадзейных таварыстваў. Тое самае датычыць і да асабістых фінансаў ДП. Яны таксама будуць выменьвацца паводля тых самых прынцыпаў, што й Немцам. Што да ападатканьня прэсы ДП — зробленыя захады для памыснага разьвязаньня справы.

6. Што да забясьпечаньня дзяцей у веку 1-4 г. і 6-11 г. шэф забясьпечаньня адказаў, што ДП забясьпечваліся абуткам з запасаў амэрыканскай арміі, таму няма дзіва, што з гэтых запасаў было цяжка знайсьці нешта для малых дзяцей. Таму плян на 1948/49 г. узяў гэта на ўвагу й ёсьць надзея, што стан палепшыцца.

7. Што да цьверджаньня, быццам Немцы ці іхныя арганізацыі затрымваюць рознага роду пакеты ДП, прысыланыя іхнымі нацыянальнымі арганізацыямі з Амэрыкі, Галоўная Гаспода нічога ня можа сказаць, паколькі пры гэтым не пададзеныя канкрэтныя факты.

Амэрыканская армія зацікаўленая цяпер у стварэньні сканцэнтраваных лягераў ДП. Але гэтыя лягеры будуць тварыцца паводля прынцыпу працаздольнасьці ДП. Ужо ўстаноўлена, што каля 40% ДП няздольныя да працы. Будзе праводзіцца перашкаленьне ДП. Дзеля гэтага будзе падрыхтавана 60 розных школаў-курсаў. Давядзецца павялічыць лягер у Брэмене з прычыны павялічаньня колькасьці параплаваў. Апрача таго, давядзецца павялічыць жыльлёвую плошчу на адну асобу, што станавіла дасюль 2,2 кв. м. Усё гэта вымагае шмат працы, часу й грошай. Лягеры ўва ўсходняй частцы зоны маюць быць зьліквідаваныя, іх патрабуе войска.

Што да прыдзелу паперы для прэсы ДП, дык справа будзе палепшаная ў тым сэньсе, што дасюль папера прыдзельвалася нямецкімі органамі, а цяпер прыдзелы будуць праводзіцца праз амэрыканскую армію. Між іншага, вайсковая амэрыканская газэта „Star and Stripes" адпусьціла ўжо 38 тонаў паперы для прэсы ДП, апрача таго із 75 тонаў вайсковых запасаў бальшыня будзе прыдзеленая для прэсы ДП.

Удзельнікі Алімпіяды ДП атрымаюць дадаткавы прыдзел харчоў.

У Антвэрпэне, Парыжы, а магчыма і ў Амэрыцы будзе праводзіцца выстаўка маляроў ДП. Пажаданы ўдзел маляроў усіх народаў.

Наступная канфэрэнцыя вызначаная на 14. 7, таксама ў Бад-Кісынгене.

**У. Т.**

## З НОВАГА СЬВЕТУ
### (Ліст із ЗША).

...Вось ужо 8 месяцаў, як я із сваёй сям'ёй у ЗША, і за гэты час сяньня ўпяршыню чытаў газэту ў роднай мове — «Бацькаўшчыну». Беларускіх выданьняў тутэйшых я не сустракаў. Расейскія, украінскія й польскія сустракаюцца даволі часта. Тут налічваецца «Расейцаў» 7 міліёнаў. Пра ўсіх гаварыць не магу, але нью-ёрскія «Расейцы» ў пераважный колькасьці Беларусы. Украінцаў куды меншая колькасьць. Пэўна, ёсьць і Расейцы, але іх менш супраць Беларусаў і Украінцаў.

Тутэйшыя Беларусы — гэта былыя сяляне. Інтэлігентаў я не сустракаў. Дзеці іхныя, што нарадзіліся ўжо тут, на 95% ня ведаюць роднае мовы й гутараць толькі паангельску. Пра сваю Бацькаўшчыну яны ведаюць адно, што іхныя бацькі нарадзіліся дзесь у Старым Сьвеце. Ніякае цікавасьці да Беларусі ў іх няма. Затое бацькі іхныя не забыліся пра сваё даўнейшае й любяць успамінаць даўніну, пагутарыць пра палітыку, чаго ад Амэрыканца ніколі не пачуеш. Палітыка да яго не датычыць.

Жывуць Беларусы добра, лепш, як у дарэвалюцыйнай Расеі заможныя гараджане. На 80% яны маюць грошы ў банку. Той, хто мала заглядае ў бутэльку й ня гуляе ў карты (вельмі пашыраны спорт сярод выхаджэнцаў з б. Расеі) — мае даволі грошай. Гаспода з 4-5 пакояў з ваннай і радыё канечна ў кажнага. Калі я й то ўжо маю 3 пакоі. Харчаваньне — лепшага думаць няма чаго. Калі я прыехаў да сваяка, дык падумаў, што гэта ўжо «буржуй», а тут папраўдзе бедны чалавек. Але працуюць яны цяжка. Што значыць цяжка! Напружана па 7 гадзінаў на дзень і 5 дзён на тыдзень. Усялякія заработкі даюць магчымасьць жыць. Бывае й беспрацоўе. Калі працы няма, вам выплачваюць 21 дал. на тыдзень, на што можна жыць. Шмат із гэтага жывуць. Гэта часта трапляецца. Я йшчэ не карыстаўся гэтым, хоць пражыў ужо колькі такіх тыдняў, ды, дзякаваць Богу, галодны ня быў і грошай не пазычаў.

Дык вось, здавалася-б, чаго хацець лепшага? Але чалавек — заўсёды чалавекам, і яму ўсё чагосьці не стае. Хацеў-бы ён манны нябеснае. Ёсьць тут і такія, што дэкляруюць і манну нябесную. Вы, пэўна, здагадваецеся, хто гэта такія. Свабода тут поўная. Гавары й пішы, што ты хочаш. Прыкладам, калі ты захочаш штось балбатаць, дык канечна, як спад зямлі вырасьце палісмэн з дубінкаю й будзе цябе ахоўваць, каб не чапалі, але й табе не дазволіць рабіць, чаго ня трэба. Хлапец ён вельмі спрытны, а дубінка йшчэ спрытнейшая. Вось гэтай свабодай і карыстаюцца прадстаўнікі чалавеказабойскага камунізму. Яны дэкляруюць усё і робяць, што яны рабілі ад 1917 г. у Расеі. Масква на гэта грошай не шкадуе й абяцанак, а на абяцанкі й цёмныя справы маскоўскія агенты й г. зв. спадарожнікі — вялікія майстры. Яны й пасеялі зярняты маны і ў душы нашых суродзічаў. Верацъ нашыя сяляне, што ў СССР калі ня рай зусім, дык штось вельмі блізка да гэтага. Калі вы пачняцё сьмяяцца зь іх, дык яны вам сталінскую канстытуцыю пад нос, а ДП — усе злачынцы... Па прыклады далёка хадзіць ня буду. Мой сваяк, да якога я прыехаў, калі ўжо ўсе палеглі спаць і пытае мяне, што гэта такое я зрабіў або маніўся зрабіць, што не паехаў дадому. Мабыць, я ўзрываў хвабрыкі або заводы, як вораг народу, бо каб займацца разбойствам або крадзяжом, дык я й мая радзіма не выглядаем на гэта. Калі я пайшоў на хвабрыку працаваць, дык, бязумоўна, абступілі мяне, каб ведаць праўду. Ведаючы, што тут свабода, і незнаёмы добра з жыцьцём у Амэрыцы, я пачаў гаварыць праўду. За тыдзень мяне звольнілі, бо «не знайшлося» для мяне ўжо «адпаведнай работы». На другі дзень я працаваў ужо ў другім месцы й даведаўся, што «босу» (гаспадару) Жыду тае хвабрыкі, дзе я працаваў учора, «даказалі», што я прыехаў зь Нямеччыны й разам зь Немцамі зьнішчаў Жыдоў. Во, як спрытна! Вам добра ведама, самыя Амэрыканцы спачатку як глядзелі на нас і выдавалі Чырвонаму Малоху.

Ды, дзякуючы Богу, апошнім часам людзі пачынаюць прыходзіць да розуму. Ужо й мой сваяк часта прыходзіць да мяне ў госьці й не вінаваціць больш у тым, што я меў на ўвеце патокі ракі Бярозы сьціраваць у Жоўтае мора на карысьць Японцам, што мне прыблізна прыпісвалі ў 1937 г. у НКВД. Гэтаму памагаюць новыя эмігранты — ДП. Мы пішам праўду ўва ўсе газэты. Вось чаму Чырвоны Малох за ўсялякую цану патрабаваў нашае выдачы яму.

За гэты час чырвоны фашызм пазналі ўсе добра. Ведаюць ягонае «міралюбства». У кажнай газэце пішуць аб ім і рыхтуюцца да ўсялякіх ягоных выбрыкаў. Вось сяньня пішуць, што прадстаўнікі ваеннага міністэрства ўжылі ўсе захады да закліку ў армію 30 000 навабранцаў на месяц. Камісія асыгнаваньняў мела рад зачыненых паседжаньняў, на якіх абмяркоўваліся з прадстаўнікамі камандваньня вельмі важныя пытаньні. Прадстаўнікі арміі сказалі, што калі вайна выбухне нечакана, у распараджаньні арміі апыніцца вельмі ладная колькасьць баёвых матар'ялаў і ваеннага рыштунку. Бальшавізм шалее што дзень больш і больш. Ад яго можна чакаць розных неспадзевак, але ён мусіць скруціць сабе шыю. Так або інакш, нашая Бацькаўшчына вызваліцца ад ненавідных нам крывавых акупантаў, падобных да якіх сьвет яшчэ ня бачыў. Гэты час ужо не за гарамі...

**М. Д.**

## КУРСЫ МОВАЎ

Як паведамляе ПК ІРО, ува ўсіх лягерах ДП амэрыканскае зоны наладжваюцца курсы ангельскае, гішпанскае й гэбрайскае (стара-жыдоўскае), а ў выпадку патрэбы й іншых моваў. Курсы стаяць у сувязі з курсамі перашколеньня ІРО й прыватных арганізацыяў, асаблівая ўвага будзе кіравацца на вывучэньне назоваў інструмэнтаў, матар'ялаў і г. д. Вучні таксама павінны апанаваць беглась́ць вуснае мовы, дзеля гэтае мэты штодня адна гадзіна будзе прысьвячацца вуснай гаворцы. Падручнікі ўжо ў друку ,і па выхадзе будуць разьмеркаваныя па АРЭА дзеля школьнага ўжытку й курсаў. Дзеля падрыхтаваньня патрэбнага ліку настаўнікаў у Амэрыканскай зоне адбудуцца 1-2 настаўніцкія курсы.

**Р. КРУШЫНА**

## КАЛОСЬСЕ

Дзесьці ў засьнітку песьня заглохла,
Не пачулі ні я і ні ты.
Краска быццам-бы зьвянула, ссохла
І пакрыліся пылам лісты.

Палыном маё лета сьпяклося,
Меў я права маўчаць ці ілгаць.
Зводдаль звон залатога калосься
Заклікаў праз балоты і гаць

На радзімае поле, да жыта.
Наша доля цьвіла ў каласох.
Ой, ці гора ў гадох перажыта?
Ці палын парудзеў і пасох?

Я з гаркоты душу адкараскаў
І нясу няўмірушчай красе.
Ажывілася песьня, а краска
Умываецца ў чыстай расе.

## ХТО ЗАГУБІЎ «ІІ КАНГРЭС»

«Другі Ўсебеларускі Кангрэс» загубіў праф. Р. Астроўскі, прэзыдэнт т. зв. Беларускай Цэнтральнай Рады, і высунутыя ім кіраўнікі Кангрэсу. Пастараюся выясьніць, якім гэта чынам.

Калі, праўда, зь ініцыятывы часткава і сп. Астроўскага, грамадзтва пачало рыхтавацца да Другога Ўсебеларускага Кангрэсу (і, трэба зазначыць, што ў вабставінах паўлегальных) — дык гэты Кангрэс быў задуманы й меў выйсьці запраўды выяўленьнем чыста нацыянальнага кірунку — незалежніцкага імкненьня нашага народу. Кангрэс быў задуманы й меў выйсьці дэманстрацыйна - антынямецкім. Былі падцягнутыя на ўсякі выпадак аддзелы краёвае арміі, паліцыі, былі пад'ехаўшы баёўкі «Беларускае Незалежніцкае Партыі». Палітычнае палажэньне спрыяла такому разгортаньню Кангрэсу, і Немцы змушаныя былі-б пайсьці на ўступкі. Яны ведалі, што ў Беларусі ня ўтрымаюцца, што, як мы бачылі, і сталася. Тымчасам, калі дайшло да кангрэсу, дык БЦР і ў васаблівасьці сп. Астроўскі не дапусьцілі прадстаўнікоў «Беларускае Незалежніцкае Партыі» да актыўнага ўдзелу ў кангрэсе дзеля выяўленьня антынямецкага ўздыму нашага народу.

«Другі Ўсебеларускі Кангрэс» ня можа быць прызнаны ня толькі таму, што дэлегаты на яго былі прызначаныя адміністрацыяй, а ня выбраныя народам. Трэба прызнаць, што на кангрэсе дэлегаты ў пераважнай бальшыні былі нашым сьведамым перадавым дзейным актывам, але таму, што гэты кангрэс быў змахінаваны палітычным невуцтвам свайго кіраўнічага пэрсаналу, у якім галоўную ролю граў сп. Астроўскі, ён праваліўся. Ці можна залічыць за дзяржаўнага дзеяча такога чалавека, які перад канцом тэрарыстычнае гітлераўскае банды, будучы на такім адказным становішчы перад народам ды яшчэ ў такім мамэньце, якім быў кангрэс, адважыўся выкідваць розныя вульгарызмы супраць дэмакратыі й сэмітызму, падчырківаючы, што «мы ідзём зь Нямеччынай якраз тады, калі яна прайграе, і гэта каштоўны довад нашае адданасьці нашаму хаўрусьніку». Гэткую хлусьню ад імя беларускага народу не адважыўся-б сказаць ніякі разумны чалавек, ня толькі прэзыдэнт народу, на якога сяньня прэтэндуе праф. Р. Астроўскі.

Кіраўніцтва рэвалюцыйнае «Беларускае Незалежніцкае Партыі», адзінае тым часам беларускае нелегальнае незалежнае нацыянальнае партыі, парвала тады з БЦР і пачало праводзіць сваю дзейнасьць зусім самастойна. «БНП» выказала свой пагляд на ўсю БЦР у пятым нумары свайго бюлетэню яшчэ ў часе існаваньня гітлераўскага рэжыму.

«Другі Ўсебеларускі Кангрэс» загубіў Р. Астроўскі, прэзыдэнт створанай ім на прызначэньне Беларускай Цэнтральнай Рады, якая ня мела й ня мае нічога супольнага з воляю беларускага народу. Баючыся страціць сваю пасаду й турбуючыся за собскую скуру, гэты нефартунны дзеяч здабыўся на кампрамітацыю й правакацыю беларускага вызвольна-рэвалюцыйнага руху ў пэрыяд нямецкае акупацыі.

Аднак, здаровая нацыянальная плынь нашага народу не прайшла за голасам правакатара ваяваць за «непераможную Нямеччыну», яна пайшла на кліч «БНП» здабываць незалежную Беларусь або за яе памерці. Затое сяньня ня мае ніякага права сп. Астроўскі адзывацца ад імя беларускага народу, бо ён калісь на «Другім Ўсебеларускім Кангрэсе» не дапусьціў наш народ, каб той мог выказаць сваю волю.

Беларускі вызвольна-рэвалюцыйны рух павінен судзіць безаглядна ўсіх тых, хто важыўся правакацыйна кампрамітаваць ягоны аўтарытэт. Было-б да рэчы сяньня папрасіць яшчэ сп. Астроўскага аб публікацыі ягонага ліста да польскага прэзыдэнта Рачкевіча й раскрыць сяньняшнія ягоныя **некаторыя сувязі, тады** ачмучанае грамадзянства пабачыла-б запраўднае аблічча гэтага палітычнага афэрыстага. Няма ніякага сумлеву, што гэта калі ня сяньня, дык заўтра станецца.

**У. Ш......**

(Працаўнік аддзелу вайсковае прапаганды БЦР і ўдзельнік рэвалюцыйнае падрыхтовы «БНП» да «Другога Ўсебеларускага Кангрэсу»).

**Ад рэдакцыі.** Перадрукоўваецца з часапісу «Незалежнасьць», орган Беларускага Нацыянальнага Вызвольна-Рэвалюцыйнага **Руху, № 1 — 15. IV. 1948 г. — Льеж.**

